№ 162 (1975)
Серада, 1 верасня 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Выдавец: УП «Народная воля».
Кошт свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля

E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

**Надвор'е**

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +17...+19, навальніцы, уначы — +11...+13, без ападкаў; у Брэсце ўдзень — +18...+20, сонечна, уначы — +10...+12, без ападкаў; у Гродне ўдзень — +17...+19, сонечна, уначы — +10...+12, без ападкаў; у Віцебску ўдзень — +23...+25, уначы — +15...+17, на працягу сутак — навальніцы; у Гомелі ўдзень — +23...+25, уначы — +16...+18, на працягу сутак — навальніцы; у Магілёве ўдзень — +23...+25, уначы — +15...+17, на працягу сутак — навальніцы.

www.meteo.by



**ПРАТЭСТ**

## Большасць інжынерна-тэхнічных работнікаў аб'яднання «Беларуськалій» лічаць, што кантрактная форма найму пагаршае іх прававое становішча

*Пераважная большасць інжынерна-тэхнічных работнікаў ВА "Беларуськалій" лічаць, што пераход на кантрактную форму працаўладкавання пагаршае іх прававое становішча. Такія вынікі анкетавання, праведзенага сярод інжынерна-тэхнічных работнікаў "Беларуськалія" членамі Незалежнага прафсаюза гарнякоў прадпрыемства.*

Апытанне праводзілася з мэтай высветліць, як названая катэгорыя працоўных ставіцца да кантрактнай сістэмы. Былі апытаны 99 чалавек. Аб тым, што кантракт пагаршае іх прававое становішча, заявілі больш за 90 працэнтаў рэспандэнтаў.

На пытанне "Чаму вы пагадзіліся перайсці на кантракт?", адказы былі розныя, аднак найбольш часта ў якасці прычынназываліся павышэнне зарплаты і патрабаванне кіраўніцтва прадпрыемства. А 22 працэнты апытаных заявілі, што вымушаны былі перайсці на кантрактную форму найму ў сувязі з пагрозамі страціць працу.

З вынікамі апытання Незалежны прафсаюз гарнякоў азнаёміў адміністрацыю прадпрыемства.

**Ірына ЛЕЎШЫНА.**

**ЭКСКЛЮЗІЎ**

*Уладзімір ПАРФЯНОВІЧ:*

## «У Пекіне медалёў можа быць яшчэ менш»

*Гульні XXVIII Алімпіяды ўжо сталі набыткам гісторыі. Днямі міністр спорту і турызму Юрый Сівакоў сказаў, што тая задача, якая ставілася напярэдадні афінскай Алімпіяды — заваяваць 25 медалёў — застаецца актуальнай і калі гаварыць пра будучую Алімпіяду, якая пройдзе ў Пекіне. Ці рэальна гэта? Што мы маем у спорце зараз і што будзе далей? Пра гэта журналіст "Народнай волі" гутарыць з трохразовым алімпійскім чэмпіёнам* **Уладзімірам Парфяновічам.**

**— Як Вам вынік у 15 алімпійскіх медалёў? План у 25 узнагарод застаўся нявыкананы...**

— Ну не было ў нас рэальных, асабліва эканамічных падстаў, каб заваяваць гэтыя, ужо нагнаўшыя ўсім аскому 25 медалёў!

**— А калі ўлічваць чацвёртыя месцы?**

— А калі б у бабулі было нешта, то яна б і дзядуляй папросту стала. Вынік нашага выступлення на Алімпіядзе ў Афінах заканамерны. Скажу больш, на наступнай Алімпіядзе ў Пекіне дай Бог, каб дзесяць узнагарод было.

**— Песіміст Вы, Уладзімір Уладзіміравіч...**

— Я рэаліст. Калі тэрмінова не заняцца рэфармаваннем у спартыўнай галіне, то нічога добрага нас наперадзе не чакае. Вось ужо з'явіліся меркаванні наконт таго, што варта развіваць толькі "медальныя" віды спорту. Гэта вялікая памылка, якую робяць кіраўнікі спартыўнай галіны.

**— Чаму памылка?**

— Ну паглядзіце, мы ж не разлічвалі на алімпійскае золата на стометроўцы ў Юліі Несцярэнка. На золата Макарава ў дзюдо таксама не было разліку. Вынікі алімпійскіх спаборніцтваў спрагназаваць немагчыма. Калі ўспомніць перамогу аўстралійскага спартсмена ў шорттрэку на зімовых Алімпійскіх гульнях, то вынікае заканамернае пытанне: хто ў Аўстраліі думаў развіваць гэты від спорту? Я не кажу, што Алімпіяда цалкам складаецца з выпадковасцяў. Проста на Алімпіядзе людзі паказваюць сябе зусім з іншага боку. Можна быць неаднаразовым чэмпіёнам свету, але ніколі не выйграць Алімпіяду. Выступленне нашых канаістаў — яскравы прыклад. Яны ніколі не набліжаліся да прызавых месцаў, а ў Афінах ім гэта ўдалося.

**— Што Вы прапаноўваеце?**

— Я прапаноўваю не перашкаджаць дзецям самім вызначацца з тым, якім відам спорту ім трэба займацца. Ну не ўсе ў нашай краіне, умоўна кажучы, любяць футбол, хакей і лыжы. Ёсць жа шмат іншых відаў спорту, якімі хочуць займацца дзеці. Чаму нейкі чыноўнік павінен вырашаць за маё дзіця, якім спортам яму варта заняцца. Не трэба дзяліць віды спорту на "правільныя" і "няправільныя".

**— Грошай можа не хапіць, калі развіваць усё.**

— Нам не трэба пакутаваць ад гігантаманіі. Калі будаваць спартыўныя аб'екты, то гэта павінны быць недарагія, зручныя спартыўныя збудаванні, куды б маглі прыходзіць дзеці. За кошт чаго сёння перамагае Кітай? За апошнія восем гадоў колькасць тых, хто займаецца спортам, значна павялічылася. А за восем гадоў можна падрыхтаваць спартсмена, які будзе паказваць годныя вынікі. Кітай пайшоў па шляху развіцця спорту, а мы развіваем толькі алімпійскія віды. Гэта вялікая памылка.

**— Дарэчы, што тычыцца вашага віду спорту — веславання. У Брэсце пабудаваны канал. Вось і можна будзе дзяцей трэніраваць.**

— Калі грошы будуць укладзены толькі ў будаўніцтва аднаго канала, то гэтага будзе недастаткова. Ну будуць там два "палонных" акадэмісты альбо канаісты веславаць і ўсё! Што нам трэба? Нам трэба ў Мінску аднавіць і адрэстаўрыраваць пяць баз па веславанні, каб яны былі і ў Чыжоўцы, і на Камсамольскім возеры. Для развіцця гэтага віду спорту за апошнія 30 гадоў не зроблена нічога. Лукашэнка абяцаў, яшчэ пасля мінулых Алімпійскіх гульняў, прыехаць і паглядзець, дзе і як Кацярына Карстэн трэніруецца. Дык ён нават на Камсамольскае возера не прыехаў...

**— А калі б прыехаў, то што ён там убачыў бы?**

— Я думаю, што ён проста спалохаўся б. Ведаеш, калі пайшлі чуткі, што на гэтую базу можа прыехаць Лукашэнка, уздымалася пытанне аб зруйнаванні гэтай базы. Збіраліся паставіць два вагончыкі еўрапейскага тыпу, каб хоць нешта паказаць. Але каму патрэбны гэты пыл у вочы, хто ад гэтага выйграе? Адны абяцанні... Так, да нацыянальнай каманды адносіны нармальныя — яна забяспечана ўсім. Але мы выступаем на "лініце" — за спінамі няма (!) рэзерву. Дык вось, калі і надалей захаваюцца такія адносіны да дзіцячага спорту, то ў будучым пра алімпійскія медалі можна будзе толькі марыць...

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

**ДОЖИНКИ-2004**

## И споют, и спляшут…

Выступление около 3000 профессиональных и самодеятельных артистов на семи сценических площадках запланировано культурной программой республиканского праздника урожая "Дожинки-2004", который в этом году пройдет в Волковыске. Об этом сообщила заведующая отделом культуры Волковысского райисполкома **Зоя Бойко**. Официальное открытие праздника запланировано на 17 сентября.

По ее словам, в концертной программе "Дожинок-2004" примут участие 90 коллективов со всей республики. *"Приглашены "Песняры", "Сябры", ансамбль "Бяседа", Александр Тихонович и Ядвига Поплавская, Яков Науменко, хор Цитовича, ансамбль "Белые росы". Сейчас решается вопрос об участии в концерте Александра Серова"*, — сообщила Бойко.

**У ШКОЛУ!**

# Век жыві — век вучыся

*Сёння — Дзень ведаў. "З якімі думкамі Вы сустрэлі новы навучальны год?" — з такім пытаннем мы звярнуліся да нашых чытачоў.*

***Уладзімір КОЛАС, дырэктар ліквідаванага Беларускага гуманітарнага ліцэя:***

— З аптымістычнымі. Ліцэй захаваўся ў поўным складзе. І выкладчыкі, і навучэнцы, — усе з нецярпеннем чакаем сустрэчы адзін з адным, новых урокаў. Мы засталіся вернымі сваім ідэалам і мэтам. Спадзяюся, што парламенцкія выбары, якія мусяць адбыцца ў Беларусі ў кастрычніку, прынясуць змены, і здаровы сэнс у рэшце рэшт пераможа. І мы зноў будзем праводзіць заняткі ў нармальных цывілізаваных умовах.

***Георгій АНТАНЮК, доктар філасофскіх навук:***

— Першая думка — клопат пра сына, якога адпраўляю ў школу. Калі пра больш глабальныя рэчы, то, вядома, ёсць трывога. Трывога за беларускую мову, якой у нас вельмі нестае ў навучальным працэсе. Вельмі хочацца, каб родная мова заняла годнае месца ў сістэме адукацыі, не выцяснялася і не падвяргалася нападкам. І калі ў вёсцы сітуацыя з беларускімі школамі яшчэ больш-менш прымальная, то ў горадзе адукацыйныя ўстановы, дзе працэс навучання ажыццяўляецца па-беларуску, па пальцах пералічыць можна. Усё ж такі беларускі этнас у нас — асноўны, таму і сістэма адукацыі павінна будавацца з улікам гэтага фактару.

Вельмі непакоіць і тое, што адукацыя наша нейкая несвабодная, падкантрольная. Тое ж "пранікненне" ідэалогіі ў навучальныя ўстановы... Нават калі мэты ідэалогіі самыя добрыя і ўзвышаныя, з вучэбным працэсам іх мяшаць нельга.

***Лявон ВОЛЬСКІ, лідэр рок-гурта NRM:***

— З урачыстымі. Мая дачка сёлета ідзе ў першы клас беларускай гімназіі. Спадзяюся, што яна атрымае годную адукацыю і ў яе будзе магчымасць давучыцца на роднай мове да канца. У апошні час вельмі супярэчлівыя і змешаныя пачуцці ўзнікаюць, калі чуеш, што зачынілі Беларускі ліцэй, ЕГУ... Вельмі прыкра, што такое адбываецца і што беларускай мовы ў школах становіцца ўсё менш.

***Аляксандр ЦІХАМІРАЎ, кандыдат гістарычных навук, загадчык аддзела ўсеагульнай гісторыі новага і навейшага часу Інстытута гісторыі НАНБ:***

— Сёлета давялося пабываць у Англіі, дзе між іншага наведаў Оксфардскі універсітэт. Параўнаўшы заходнюю сістэму адукацыі ў вышэйшай школе і нашу, зрабіў выснову, што ў нас не надта заахвочваюць ініцыятыўных студэнтаў. У Англіі выкладчыкі вызначаюць агульныя напрамкі і асноўны акцэнт — менавіта на самаадукацыю, студэнт павінен быць падрыхтаваны не толькі тэарэтычна, але і практычна.

Што датычыцца сярэдняй школы, то, на маю думку, вучням старэйшых класаў трэба даваць больш самастойнасці, заахвочваць іх, імкнуцца падыходзіць да кожнага індывідуальна. Словам, не гасіць праявы самастойнасці. Я ні ў якім выпадку не хачу сказаць, што ў Беларусі дрэнная адукацыя. Але той сістэмы ведаў, што даецца ў старэйшых класах для паступлення ў ВНУ, напрыклад, недастаткова. Дзеля поўнавартаснай падрыхтоўкі выпускнік мусіць наймаць рэпетытараў, траціць грошы і час. Таму было б не лішнім крыху спрацісць праграмы старэйшых класаў, разгрузіць вучняў па прадметах і зрабіць акцэнт на самаадукацыю.



***Ірына ПАЎЛОЎСКАЯ, студэнтка:***

— Са скептычнымі думкамі. Усе гэтыя ідэалагічныя новаўвядзенні ставяць крыж на асобе, вальнадумстве. У маім універсітэце, напрыклад, яшчэ летась быў уведзены курс ідэалогіі і прызначаны кіраўнік па ідэалагічнай працы. Школьнікам у катэгарычнай форме загадваюць выкарыстоўваць дзённікі толькі з дзяржаўным сцягам, гербам і надпісам "Першы прэзідэнт Рэспублікі Беларусь". Сумна, што ў школах і універсітэтах адукацыйныя праграмы зніткаваны з палітыкай.

**Вольга КЛАСКОЎСКАЯ.**
**Фота photo.bymedia.net**

**ИЗ ПЕРВЫХ УСТ**

## Олимпийская чемпионка Юлия Нестеренко — в больнице

Олимпийскую чемпионку Юлию Нестеренко встречали дома так, как и подобает встречать Королеву спорта.

В 3 часа ночи в Барановичах ее приветствовали наши борцы, в 6.30 утра при въезде в Брест Юлю уже встречали самые преданные болельщики, а заместитель председателя Брестского облисполкома Леонид Цуприк вручил спортсменке ключи от трехкомнатной квартиры.

Вчера Юлия вместе с серебряной призеркой Олимпиады Анной Батюшко и "бронзовой" Натальей Гелах должна была встречаться с Александром Лукашенко, который приезжал в Брест на открытие комплекса спортивных игр "Виктория" и знакомился с работой гребного канала, но, увы... Позавчера нашу олимпийскую чемпионку забрали в больницу.

— Температура у нее подскочила больше чем за 39°, — рассказал муж Юлии, Дмитрий. — Больница от нашего общежития всего в 500 метрах, так что жену сразу же туда и забрали. Сегодня (31 августа) температуру сбили, все нормально, так что, возможно, со дня на день уже и выпишут.

**— Что говорят врачи?**

— Говорят, что температура поднялась из-за нервного истощения — сами понимаете, что на Олимпиаде приходилось быть в постоянном психологическом напряжении. Плюс процесс акклиматизации — все это не проходит бесследно.



**— То есть на встречу с Лукашенко она так и не попала?**

— Да вроде как он сам ее в больнице навещал.

**— Ключами от квартиры довольны?**

— Ну конечно, хотя дом, насколько известно, сдается только в октябре. Надо будет думать еще о ремонте, покупке мебели...

**— Как долго Юля пробудет дома?**

— Раньше планировала сразу же отправиться на турнир в Германию, но сейчас придется, видимо, недельку побыть дома. Потренироваться, прийти в себя. Сами видите, чего ей стоила победа на Играх.

**Алесь СИВЫЙ,**

## В Гааге возобновились слушания по делу Слободана Милошевича

Международный трибунал по бывшей Югославии в Гааге возобновил слушания по делу экс-президента этой страны Слободана Милошевича, который приступил к своей защите. Ожидается, что своего первого свидетеля С.Милошевич пригласит в суд на следующей неделе, передает Рейтер. Возобновление слушаний неоднократно откладывалось по причине слабого здоровья обвиняемого.

## Бывшего диктатора Пиночета лишили неприкосновенности

26 августа 2004 года Верховный суд Чили принял решение снять с Пиночета парламентскую неприкосновенность, которой он пользовался как ушедший в отставку глава государства. 9 судей высказались за это решение, 8 проголосовали против.

www.charter97.org

*Леонид РАДЗИХОВСКИЙ, политолог:*

# «Братская интеграция» лопнула, когда Путин назвал кошку кошкой

*Леонид Радзиховский, популярный московский политолог и публицист, уже давно, по его выражению, "в теме" российско-белорусских отношений. И его комментарии не чета тем, что выдают иные околокремлевские журналисты, которым в периоды очередного двустороннего обострения дают отмашку — "мочить" Лукашенко.*

*В отличие от конъюнктурщиков, Радзиховский не первый год достаточно жестко оценивает и политику Кремля, и саму идею "братской интеграции". Но при этом не "мочит", а размышляет. Что всегда ценно.*

*Предлагаем вашему вниманию его эксклюзивное интервью "Белорусским новостям".*

**— Многие белорусские аналитики расценили большое июльское выступление Александра Лукашенко перед отечественными дипломатами как замаскированные похороны союзного проекта. Акцент был сделан на усилении независимости от России во всех смыслах: ослабить энергетическую привязку, диверсифицировать экспорт; суверенитет превыше всего и так далее. Ну разве что белорусский лидер смягчил резюме, сказав, что "некоторые элементы" интеграции с Россией себя изжили...**

— А я, знаете, всегда писал, что *"братская интеграция"* — чистый блеф. Кроме политической игры, за ней никогда ничего не стояло.

В свое время у белорусского лидера легко проглядывались амбициозные планы — занять вакансию после Ельцина. Но получилось иначе. И с приходом Путина оказалось, что этот проект особо не нужен ни новому хозяину Кремля, ни Лукашенко.

В отличие от Ельцина, Путин и так популярен, без этих интеграционных подпорок.

Потом Путин стал говорить неприятные для белорусского лидера вещи. То, что называется — *назвать кошку кошкой.*

**— Так проект закопали навсегда или просто подвергли глубокой заморозке?**

— Без интеграционных зигзагов еще не обойдется. Например, если этого потребует предвыборная конъюнктура. Когда товар пользуется спросом, почему бы и не выбросить его на политический рынок?

Но стратегически, повторю, эта идея не нужна ни Путину, ни Лукашенко.

**— А как же нерушимые узы братства, извечная тяга народов друг к другу — то, чем пропаганда столько лет потчевала публику в обеих странах?**

— Что касается братства, общих исторических корней и прочего — то у австрийцев с немцами общего еще больше. Но они ведь объединяться не собираются.

По моему мнению, для Лукашенко инкорпорация — это смерть. С его авторитарным складом личности, после того как любовно выстроена система единоличной власти — *пойти в губернаторы, в наместники к Путину?* Да лучше застрелиться!

С другой стороны, и Путину Беларусь на блюдечке ни к чему. Еще одна Чечня, только в несколько раз больше.

Зачем Кремлю реанимировать славный опыт белорусских партизан?

**— И как же нам, соседям, жить дальше?**

— Очевидно, что *личные* отношения у Путина с Лукашенко не сложились. И уже не сложатся.

Но если белорусский лидер не преподнесет какого-нибудь слишком уж большого сюрприза, если будет держаться на почтительном расстоянии и, с точки зрения российского руководства, в относительных рамках, то Кремль, пожалуй, готов сосуществовать с ним и далее.

Более того, для Москвы в этом есть и ряд плюсов.

Как-никак, Беларусь при Лукашенко все-таки достаточно стабильна и предсказуема (предсказуема по сути, в смысле политических приоритетов, хотя экстравагантных экспромтов белорусского лидера и впредь исключить нельзя).

Потом, смена руководителя в вашей стране обещает еще и смену всей системы. А это для Москвы тоже чревато непредсказуемостью. Да и зачем какой-то нехороший пример для собственно российского электората?

**— Но ведь и нынешний белорусский лидер периодически намекает на возможность западного, как он говорит, крена.**

— Все разговоры о некоем *"диком крене"* — это только пыль в глаза. Слишком испорчены у официального Минска отношения с Западом. Да и не в характере Лукашенко перед этим гнилым Западом расшаркиваться.

Потом, Европа и США потребуют хотя бы косметического ремонта всей системы.

Кстати, паршивые отношения Минска с Западом в определенном смысле на руку Кремлю. Кремль на этом фоне выглядит гораздо белее и пушистее.

Замечу, что у Лукашенко в Москве до сих пор сильное лобби. Речь не о Зюганове или Селезневе — это фигуры вчерашнего дня. Но в военных элитах, спецслужбах и так далее — немало антизападников.

**— А ведь еще недавно часть белорусской оппозиции надеялась, что Москва поможет демократизировать нашу страну...**

— Экспорт демократии из России — вещь абсолютно невозможная. В плане политическом режимы становятся все более похожими.

**— И это всех у вас устраивает?**

— В России недовольство вялое. Мыслящая часть общества не видит реальной политической альтернативы. Делать ставку на Явлинского или Немцова — мягко говоря, несерьезно.

Подавляющее большинство избрало уход в личную жизнь. Все-таки здесь есть несомненные достижения по сравнению с советскими временами. Например, свобода выезда. Многие из элиты — научной, творческой и так далее — полгода живут в Москве, полгода — за океаном.

И еще: хотя ТВ и стало в основном казенным, в принципе остается еще и свобода получения информации. Никто ведь не запрещает Интернет, спутниковое телевидение.

**— Итак, практически нигде в СНГ не произошло того триумфального шествия демократии, которое многим поборникам прогресса казалось неизбежным в начале 90-х. Неужели дело только в авторитарных замашках властных элит? Или еще и в том, что совковый менталитет оказался гораздо более живучим, чем это думалось когда-то энтузиастам горбачевской перестройки?**

— Вы практически ответили на вопрос.

И Лукашенко — к слову, сильный оратор — мастерски использует живучесть этого менталитета. Большевики ведь тоже учитывали глубинные психологические установки массы. Дешевая колбаса, дешевое вино, дешевые популистские идеи... Так что традиции *"демагогии вульгарис"* продолжаются.

Да и популярность Путина в собственной стране, посмотрите, во многом строится на тезисе *"он им даст прикурить"*. "Им" — это олигархам, чеченским сепаратистам (мочить в сортире!), наглому Западу и так далее.

А уж Беларусь была *самой советской* республикой, и у вас эти вещи в массовом сознании, видимо, еще сильнее.

Или возьмите такой момент: до сих пор многие жители постсоветских стран, в том числе и Беларуси, находящейся в географическом центре Европы, ни разу не выезжали за рубеж.

С чем им сравнивать ту же *"белорусскую модель"*?

**— Теперь белорусам все чаще предлагают сравнение с Россией. В смысле — как хорошо, что у нас обошлось, например, без грабительской приватизации.**

— В этом смысле мы действительно живем в очень разных странах. В России все просто. Экономическая жизнь зависит от одной штуки — цены на нефть. Сегодня нашим бизнесменам буквально некуда девать деньги, они ищут, во что бы их вложить.

Без сомнения, российские капиталисты спят и видят лакомые куски белорусской собственности. У вас есть чем поживиться.

И обострение отношений между Москвой и Минском весьма вероятно, если в Беларуси начнется масштабная приватизация.

Стычки по поводу "Белтрансгаза" — это только первые раскаты грома. Драка может быть грандиозная.

**— А если взглянуть на перспективу двусторонних отношений в целом?**

— Путин вряд ли пойдет на третий срок, все-таки перелицовывать Конституцию не в его духе. Но если он обеспечит преемственность власти (что не вполне очевидно) и если Лукашенко останется на третий срок (что более очевидно), то скорее всего между Россией и Беларусью будут в целом достаточно стабильные, нормальные отношения. Прежде всего — на экономической основе. Без этих заклинаний об интеграции.

Плюс культурные, человеческие связи — тут я вообще *никаких проблем не вижу*. В этих сферах действительно проявляется все — и общие корни, и духовная близость.

**Беседовал Александр КЛАСКОВСКИЙ, главный редактор "Белорусских новостей".**

*Кто есть кто*

### Леонид Александрович Радзиховский

Родился в 1953 в Москве. В 1977 окончил Московский государственный педагогический институт. Работал в Институте психологии Академии педагогических наук СССР. Кандидат психологических наук, специалист по истории психологии. В 1995-1997 годах был депутатом Государственной думы. Ныне — известный независимый политолог и публицист. Регулярно печатается в изданиях "Российская газета", "Русский курьер", "Версия" и других, выступает с комментариями на канале "Россия", в эфире радиостанции "Эхо Москвы".

ПУЛЬС

## Ганаровым грамадзянінам Гродна стаў трэнер па вольнай барацьбе Леанід Фурс

Леаніду Пятровічу Фурсу, заслужанаму трэнеру БССР па вольнай барацьбе, прысвоена званне Ганаровага грамадзяніна горада Гродна. Такое рашэнне па хадайніцтве Нацыянальнага алімпійскага камітэта вынес Гродзенскі гарадскі Савет дэпутатаў.

Леанід Пятровіч нарадзіўся ў 1934 годзе. Адразу па заканчэнні Мінскага інстытута фізкультуры стаў працаваць трэнерам. Ён трэніраваў такіх знакамітых спартсменаў па вольнай барацьбе, як чэмпіёнаў СССР Аляксандра Саско, Віктара Валошына і іншых.

Апошні раз статус Ганаровага грамадзяніна Гродна надаваўся ў 2000 годзе. Тады ім уганаравалі Івана Лебедзева, былога ваенкама, Героя Савецкага Саюза, удзельніка Вялікай Айчыннай вайны.

**pahonia.promedia.by**

## Студэнтаў ЕГУ прымуць нямецкія універсітэты?

Свабодны універсітэт Берліна і Універсітэт Ростака (ФРГ) вядуць з беларускім бокам перамовы наконт прыёму на вучобу студэнтаў зачыненага ў ліпені Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта. Аб гэтым паведаміў прадстаўнік універсітэцкіх аб'яднанняў Свабоднага універсітэта Берліна **Готфрыд Гюгальд** у інтэрв'ю берлінскай газеце "Тагесцайтунг" ад 27 жніўня.

*"Мы адчувалі, што неабходна ратаваць ліберальны беларускі праект, і адразу ж сталі шукаць магчымасць прыняць як мага больш беларускіх студэнтаў"*, — сказаў ён.

Газета таксама публікуе інтэрв'ю з Гезінай Шван, прэзідэнтам універсітэта Віадрына (Франкфурт-на-Одэры). Летась гэты універсітэт курыраваў у ЕГУ курс "Міжнародны менеджмент", і зараз ён прапануе прыняць на вучобу 60 беларускіх студэнтаў.

Для 60 студэнтаў спатрэбіцца 300.000 еўра. *"Сабраць такую суму будзе складана, але наша мэта робіць задачу больш лёгкай"*, — падкрэсліваюць улады нямецкай ВНУ.

Крыстаф Эрман, генеральны сакратар аб'яднання Campus Europae, куды акрамя 13 еўрапейскіх каледжаў і універсітэтаў уваходзіў ЕГУ, у інтэрв'ю выданню паведамляе, што цяпер вядзецца праца па стварэнні месцаў у навучальных установах гэтага аб'яднання.

**Марына РАХЛЕЙ.**

## Максім Мірны зноў прайграў

Увечары, 30 жніўня, стартаваў Адкрыты чэмпіянат ЗША па тэнісе — апошні з турніраў серыі Вялікага шлема. У першым крузе Максім Мірны (61-я ракетка свету ў рэйтынгу тэнісістаў-прафесіяналаў) прайграў чэху Міхалу Табары — 4:6, 6:3, 4:6, 4:6. Зазначым, што М.Табара займае 192-е месца ў сусветным рэйтынгу.

**Алег РАЯВЕЦ.**

## Курсы замежных валют

На 1 верасня Нацыянальны банк Беларусі ўстанавіў наступныя афіцыйныя курсы замежных валют:

1 долар ЗША — 2162,00 рублі
1 еўра — 2610,94
1 расійскі рубель — 73,89
1 аўстралійскі долар — 1512,75
1 балгарскі леў — 1334,77
1 дацкая крона — 351,07
1 СДР — 3152,07
1 ісландская крона — 29,92
10 японскіх іен — 196,77
1 казахскі тэнге — 15,87
1 канадскі долар — 1643,29
1 кувейцкі дынар — 7333,79
1 кыргызскі сом — 51,23
1 латвійскі лат — 3978,29
1 літоўскі літ — 756,08
1 малдаўскі лей — 179,87
1 нарвежская крона — 309,89
1 польскі злоты — 587,58
1 сінгапурскі долар — 1262,48
10,000 турэцкіх лір — 14,30
1 украінская грыўна — 406,31
1 англійскі фунт стэрлінгаў — 3878,52
1 чэшская крона — 81,92
1 шведская крона — 285,83
1 швейцарскі франк — 1692,30
1 эстонская крона — 166,09

## Уточнение

*Заместителю главного редактора газеты "Народная воля" Вячеславу Оргишу*

В публикации "Камняпад пачынаецца з двух-трох каменьчыкаў" ("Народная воля", 11 августа 2004 г.) помещено мое (Ирины Яковлевой) интервью. По недосмотру либо ввиду технической ошибки в начало и окончание интервью вошли слова, которые не выражают мою позицию. Прошу началом интервью считать слова: "Што тычыцца Бярозы..." и завершением его слова "... — гэта, як кажуць сацыёлагі, нерэпрэзентатыўная выбарка".

**Ирина ЯКОВЛЕВА.**

# Беларуская літаратура — жыве!

## *Прывітальнае слова з нагоды 70-годдзя Саюза беларускіх пісьменнікаў*

**Алесь ПАШКЕВІЧ, старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў**



Самай сталай творчай арганізацыі нашай краіны — Саюзу беларускіх пісьменнікаў — 70...

70 гадоў надзей і выпрабаванняў. Па праўдзе ж, тых гадоў у пісьменніцкай арганізацыі Беларусі яшчэ больш, бо як не назваць сярод яе пачынальнікаў літаратурныя згуртаванні 1920-х: "Маладняк", "Узвышша", "Полымя" або "Вір", зарэгістраваць якія не дазволілі?

Да стварэння нашага Саюза пісьменнікаў (у які некалі як структурныя падраздзяленні ўваходзілі Саюз кампазітараў Беларусі і (!) Саюз пісьменнікаў Літвы) у 1934 годзе спрычыніліся Янка Купала, Якуб Колас, Максім Горкі і... савецкая дзяржава.

23 красавіка 1932 года выйшла пастанова ЦК ВКП (б) "Аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый". Пасля падрыхтоўчай працы ў чэрвені 1934 года адбыўся першы ўстаноўчы з'езд Сюза пісьменнікаў Савецкай Беларусі. Выбраныя на ім дэлегаты 18 жніўня "з радасцю, творчым уздымам", як паведамлялі тагачасныя газеты, удзельнічалі ў першым Усесаюзным з'ездзе пісьменнікаў СССР. Усіх мастакоў слова сабралася з адной шостай Зямлі паўтары тысячы. Усіх, акрамя знішчаных ці беспадстаўна асуджаных, акрамя — з беларусаў — Францішка Аляхновіча, Максіма Гарэцкага, Вацлава Ластоўскага, Язэпа Лёсіка, Уладзіміра Дубоўкі, Уладзіміра Жылкі, Язэпа Пушчы, Адама Бабарэкі, Андрэя Мрыя, Лукаша Калюгі і дзесяткаў іншых на сёння класікаў нацыянальнай літаратуры. Таму, па шчырасці, юбілеі нашай творчай арганізацыі мусяць праходзіць і з адчуваннем горычы, з усведамленнем трагедыйнасці лёсу мастакоў слова. Але...

Але як з песні слова, так і з гісторыі былога — не выкінуць. Ды і як не ганарыцца тым, што да існавання *гэтага* Саюза пісьменнікаў спрычыняліся і спрычыняюцца сваёй дзейнасцю Купала і Колас, Чорны і Крапіва, Лынькоў і Броўка, Танк і Куляшоў, Панчанка і Макаёнак, Скрыган і Мележ, Быкаў і Шамякін, Брыль і Навуменка, Караткевіч і Адамовіч, Барадулін і Гілевіч, дзесяткі іншых па-сусветнаму значных творцаў? А калі дадаць да іх сотні вядомых у свеце пісьменнікаў цяперашняй постсавецкай прасторы (бо ўсе нацыянальныя літаратары "аўтаматычна" былі сябрамі агульнай суполкі)?

"Аб'яднаная ў адзіны Саюз літаратуры і літаратары з багатымі старажытнымі духоўнымі традыцыямі, і літаратары, якія ў мінулым не мелі нават пісьменнасці", — адзначыў у прывітальным лісце Саюзу беларускіх пісьменнікаў з нагоды яго 70-годдзя легендарны Сяргей Уладзіміравіч Міхалкоў, удзельнік першага з'езда Саюза пісьменнікаў СССР і сённяшні старшыня выканкама Міжнароднай супольнасці пісьменніцкіх саюзаў (сузаснавальнікам якога з'яўляецца наш Саюз). І пісьменнікі Беларусі ганарыліся тым, што ў вялікай творчай сям'і не пачуваліся беднымі "малодшымі" братамі, бо якраз з'яўляліся прадстаўнікамі згаданых класікам дзіцячай літаратуры "багатых духоўных традыцый", — бо гэта іхні суайчыннік Скарына пераклаў на родную мову Святое Пісанне і першым на той "адной шостай" выдрукаваў яе Кнігай Кніг, бо гэта іх суродзічы вучылі маскавітаў друкаваць тыя кнігі.

Не лішнім будзе і наступны напамін: на пачатку ХХ стагоддзя да адраджэння беларускай нацыі і дзяржавы, да распрацоўкі беларускай літаратурнай мовы і яе граматыкі першымі спрычыніліся беларускія пісьменнікі. Яны стварылі першыя беларускія газеты і выдалі першыя беларускія буквары і чытанкі. Урэшце, гэта яны — беларускія пісьменнікі — распачалі нацыянальна-вызвольны рух на абшарах Расійскай імперыі, гэта яны былі першымі палітыкамі і дзяржаўнікамі Беларусі, і гэта яны сталі першымі кіраўнікамі і Беларускай Народнай Рэспублікі (Вацлаў Ластоўскі), і Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі (Цішка Гартны).

Гісторыя Саюза пісьменнікаў — гэта найперш гісторыя нашай краіны з яе раднаснымі і трагічнымі шляхамі. За дасягненні ў развіцці нацыянальнай культуры і папулярызацыю беларускай літаратуры Саюз пісьменнікаў мае шэраг дзяржаўных узнагарод, сярод якіх — ордэн Дружбы народаў і ордэн Леніна. 19 сябрам Саюза пісьменнікаў было прысуджана званне народных паэтаў і пісьменнікаў, 3-м — народных артыстаў, 4 — Герояў Сацыялістычнай Працы, 41 — заслужаных дзеячаў культуры Беларусі, 10 — заслужаных дзеячаў навукі. Лаўрэатамі Дзяржаўнай прэміі СССР сталі 13 пісьменнікаў, а 101 — лаўрэатамі Дзяржаўнай прэміі Беларусі. Сёння ў шэрагах Саюза беларускіх пісьменнікаў — чатыры літаратары, якія маюць статус Надзвычайнага і Паўнамоцнага пасла Рэспублікі Беларусь. Дзесяткі сяброў Саюза абіраліся народнымі дэпутатамі — ад Вярхоўнага Савета СССР да Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Саюз пісьменнікаў аб'ядноўваў і аб'ядноўвае ў сваіх шэрагах 10 акадэмікаў, 8 членаў-карэспандэнтаў Нацыянальнай акадэміі навук, 37 дактароў і 33 кандыдаты навук. Гэта — шляхі радасныя. Было ж і іншае...

Прайшло 70 гадоў, як у савецкай дзяржаве Сталін стварыў своеасаблівы літаратурны калгас, у які сагналі і геніяў, і графаманаў, і майстроў, і кан'юнктуршчыкаў. Пры таталітарным дыктаце Саюз пісьменнікаў станавіўся карна-размеркавальнай літарганізацыяй: вымовы, калектыўнае асуджэнне, пераслед іншадумцаў — і кватэры, прэміі, узнагароды, танныя пуцёўкі ў дамы творчасці ад Балтыкі да Крыму.

Лёс не быў літасцівым да пісьменніцкай сям'і Беларусі: з дзвюх тысяч рэпрэсаваных бальшавіцкай уладай літаратараў Савецкага Саюза чацвёртая частка — беларускія творцы. Тых жа, хто ацалеў, паклікалі франты Вялікай Айчыннай...

Не была літасцівай да пісьменніцкай суполкі і дзяржава. Наогул праблема ўлады і творцы — адна з найдаўніх. Была яна і ў старажытнасці, і ў новым часе. Праблемай застаецца і сёння. Здавалася б, гэта так проста: творца мусіць паважаць уладны Закон, а ўлада — Творцу. У рэальнасці ж кожны творца (прынамсі, кожны сапраўдны) найперш жыве яшчэ Купалам сцверджаным: "Гуслям, княжа, не пішуць законаў". Зразумела ж, акрамя агульначалавечых, акрамя Боскіх... "Пісьменнік — гэта ў першую чаргу чалавек, далёкі ад кан'юнктуры, гатовы ў імя гэтага пагрэбаваць нават міласцiняй улады". Апошняя цытата належыць — заўважце — не літаратару, а... прэзідэнту Рэспублікі Малдова Уладзіміру Вароніну.

Традыцыйна дзяржава ставілася да творцаў, і ў першую чаргу да іхніх саюзаў (як памножанай на сотні галасоў, вопытаў і розумаў сілы), з рэпрэсіўнай насцярогай. У 20-х гадах ХІХ стагоддзя было разагнана Таварыства філаматаў і філарэтаў, у якое ўваходзілі большасць тагачасных літаратараў Беларусі. Не быў абласканы імперскай увагай і заснаваны ў 90-х гадах таго ж стагоддзя "Саюз узаемадапамогі рускіх пісьменнікаў і вучоных" (яго называлі — да прыкладу, Чэхаў — проста: Саюз пісьменнікаў (гл. лісты Чэхава да Л. А. Авілавай). (І нашым усходнім калегам-саюзам (напрыклад, Саюзу пісьменнікаў Расіі) правільней было б якраз гэты Саюз называць сваім папярэднікам, чаго яны яшчэ ані разу не зрабілі.) Цікава было дазнацца, што адзін са з'ездаў "Саюза пісьменнікаў" узору канца ХІХ стагоддзя не адбыўся: не дазволіла імператарскае Міністэрства ўнутраных спраў. Напэўна, не без цікавасці прачытаецца і наступная старонка з дзейнасці "першасаюза": 4 сакавіка 1901 года паліцыя і войскі ўсчалі расправу над бяззбройнымі грамадзянамі Пецярбурга, у большасці — студэнтамі і моладдзю; былі арышты, шмат удзельнікаў дэманстрацыі пратэсту выслалі; 39 сяброў згаданага Саюза звярнуліся да міністра ўнутраных спраў з рэзкім пратэстам супраць гвалту; затым з'явілася "Пісьмо рускіх пісьменнікаў у рэдакцыі газет і часопісаў", якое падпісалі 43 сябры "СП", сярод іх — і Максім Горкі; пасля гэтага... былі праведзены арышты і ў пісьменніцкім асяродку, а 12 сакавіка таго ж — 1901-га — года па распараджэнні пецярбургскага "граданачальніка" "Саюз пісьменнікаў" быў ліквідаваны...

"Нічога няма новага ў свеце", — можа хтосьці сказаць, згадаўшы нядаўняе папярэджанне Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь Саюзу беларускіх пісьменнікаў аб магчымай ліквідацыі. І яму (як і міністэрству), на жаль, сёння немагчыма запярэчыць.

Не нашмат святлейшымі былі стасункі з дзяржавай і іншых братніх пісьменніцкіх саюзаў (з якімі мацаваліся і мацуюцца творчыя і арганізацыйныя сувязі). Да прыкладу — у Саюза балгарскіх пісьменнікаў, заснаванага народным пісьменнікам Іванам Вазавым у 1913 годзе, у нашага Нацыянальнага саюза пісьменнікаў Украіны (які, аднак, мае прызнаны дзяржавай *Нацыянальны* статус), у Саюзаў пісьменнікаў Літвы ды Польшчы...

Дзяржава не тое што не дапамагае — яна з разлікам, дакладна, жорстка дабівае нас. І наш дастойны юбілей мы сустракаем на ўзбочцы ад гучных мерапрыемстваў. А наш Саюз пісьменнікаў выжываў у найцяжэйшых умовах войнаў і палітычных катаклізмаў і да сёння працягвае існаваць. Апошнія тры сказы былі летась прамоўлены даўнім сябрам беларускіх літаратараў старшынёй Саюза балгарскіх пісьменнікаў Нікалам Радзевым. Толькі ж кіраўніцтва Балгарыі не адабрала ў пісьменнікаў сафійскі Дом літаратара (як не зрабіла ў сваіх краінах і кіраўніцтва Расіі, Украіны, Літвы, Кіргізіі, Казахстана ды інш.), з арэнды якога балгарскі Саюз бедна-багата, ды функцыянуе.

А што казаць пра наш Саюз беларускіх пісьменнікаў, у якога не толькі Дом забралі, але і штодня адбіраюць роднамоўнага чытача? Якому змянілі імя, забараніўшы называцца Саюзам пісьменнікаў Беларусі (хоць гэта адзіная ў краіне масавая рэспубліканская пісьменніцкая арганізацыя, сябрамі якой з'яўляюцца разам з беларусамі — і рускія, і палякі, і габрэі, і курды).

Што казаць пра Саюз, у якога адабралі штотыднёвую газету і літаратурныя часопісы, дзе не могуць (ды і годна не жадаюць) публікавацца большасць народных паэтаў і празаікаў ды лаўрэатаў Дзяржаўных прэмій... Да ўсяго ж, адбіраючы перыядычныя органы, учынілі здзек, родансны з 30-мі гадамі: выгналі з працы двух галоўных рэдактараў, адзін з якіх пасля шунціравання сэрца знаходзіўся ў рэанімацыі, а другі — цяжарная жанчына, якая пасля звальнення не змагла нарадзіць... Зачыстка, у асяродку літаратараў названая "касцянізацыяй" (ад прозвішча вядомага дэпутата, аднаго з актыўных "рэфарматараў" літпрасторы), вядома ж, праходзіла пад узнёслымі дабрадатнымі лозунгамі; хацелі як лепш, ды атрымалася як заўсёды: перасталі выходзіць "Крыніца" і "Бярозка", ды і ацалелыя выданні тыражамі ды ганарарамі не могуць пахваліцца...

Што казаць, калі заснаваны кіраўніцтвам Саюза пісьменнікаў новы незалежны часопіс "Дзеяслоў" (які друкуе і "правых", і "левых") не можа патрапіць у рэспубліканскі падпісны каталог і ў шапікі "Белсаюздруку"?

Што казаць, калі ў апошні час на Саюз пісьменнікаў перасталі зважаць і Міністэрства культуры, і Міністэрства адукацыі, і Міністэрства інфармацыі?

Што казаць, калі ў незалежным Мінску летась не хапіла месца на магілу жонкі вядомага Народнага пісьменніка? Што казаць, калі з тыдзень таму мінская цэнтральная кнігарня, папярэдне замовіўшы тысячу асобнікаў, адмовілася браць на рэалізацыю новую кнігу "Парадоксы жыцця" другога вядомага і Народнага — Васіля Быкава?

Урэшце, што казаць пра наш літаратурны юбілей, калі сёлета на юбілей вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў тром дзесяткам сяброў Саюза пісьменнікаў — ветэранам, франтавікам і партызанам — мэрыя беларускай сталіцы не дазволіла (!) ускласці кветкі да Вечнага агню на Плошчы Перамогі? Прычым не дазволіла і напярэдадні — 30 чэрвеня... Маўляў, шмат дэлегацый, няма магчымасці...

Парадоксы жыцця? На жаль, не толькі...

Літаратура — дачка часу, час — яе бацька. Дочкі, як вядома, бываюць рахманымі, паслухмянымі, а бываюць і капрызлівымі, самастойнымі. Ды і характары бацькоў, не сакрэт, розныя. Аднак хацелі б ці не яны чагосьці іншага, літаратуры-дачцэ і часу-бацьку наканавана жыць разам, і вучыцца адно ў аднаго, і вучыць адно аднаго.

Практыка доўгіх дзесяцігоддзяў сацрэалізму засведчыла, што нават самы магутны ідэалагічны дыктат не можа ператварыць усіх пісьменнікаў у калектыў бяздумных выканаўцаў ды "алілуйшчыкаў". І калі ў сярэдзіне 1980-х гадоў захісталіся падмуркі савецкай імперыі (партнаменклатура, ідэалагічныя і карна-сілавыя інстытуты), з улоння Саюза пісьменнікаў з'явілася Таварыства беларускай мовы, нацыянальныя грамадскія і палітычныя рухі, партыі. Гэта наш Саюз першы ўзняў сцягі новага нацыянальнага адраджэння, на якіх была сімволіка Грунвальда, Ластоўскага, Багдановіча...

А сталася так таму, што літаратура і час — дзве родныя катэгорыі, якія вымяраюць і цэлыя эпохі, і асобныя жыцці. Не па гадах ці месяцах вымяраюцца чалавечыя дзеі ў гісторыі і ў вечнасці, а па вартасці зробленага, створанага. Беларуская літаратура выконвала і будзе выконваць найперш функцыю *стваральную*. Невыпадкова беларуская мова ў адзіны шэраг сабрала гэтыя словы: стваральны, творчасць, твор... Літаратура, роднае мастацкае слова павінны і ствараць, і аб'ядноўваць нацыю. А нацыя — ствараць літаратуру. Бо, у рэшце рэшт, па вялікім рахунку літаратура — гэта і нацыянальная слава, і нацыянальны клопат, і нацыянальная ідэя.

Кожная нацыянальная літаратура самадастатковая. Кожны народ мае такую літаратуру, якую заслужыў. І кожны народ мусіць жыць з літаратурай. Калі ён народ...

У даўнім супраціве часу і лёсу важна быць актыўным і няскораным, апантаным і вартым памяці сваіх літаратурных першапачынальнікаў, важна вучыцца паважаць думку свайго калегі, імкнуцца знаходзіць агульнае, аб'ядноўвацца вакол галоўных мэтаў і задач. А яны ў нашага Саюза застаюцца нязменнымі: абарона творчых, прафесійных і сацыяльных правоў пісьменнікаў, адстойванне свабоды слова як першаснай перадумовы творчасці, клопат пра нацыянальную літаратурную спадчыну, развіццё і прапаганда беларускай літаратуры, абарона роднай мовы, умацаванне міжнародных літаратурных сувязяў, спрыянне перакладам твораў беларускіх пісьменнікаў...

Якраз гэтыя мэты і цэментуюць сённяшні Саюз пісьменнікаў, яднаюць усіх 542-х яго сяброў — прадстаўнікоў розных мастацкіх светапоглядаў і пакаленняў. Творчая арганізацыя мусіць выконваць і функцыю своеасаблівага "міністэрства літаратуры": прадстаўляць нацыянальную літаратуру ў Беларусі і па-за яе межамі (падпісаны і выконваюцца дамовы аб супрацоўніцтве паміж нашым Саюзам і Саюзамі пісьменнікаў Расіі, Масквы, Украіны, Літвы, Польшчы, Балгарыі, Кіргізіі, Казахстана); каардынаваць розныя літаратурна-мастацкія праграмы і мерапрыемствы, выступленні, прэзентацыі, творчыя сустрэчы (толькі за апошні год пад эгідай Саюза іх было праведзена больш як сотня); узгадоўваць творчую моладзь (якой, балазе, не бракуе); папаўняць свае шэрагі — праз скрупулёзны адбор кандыдатаў на секцыях паэзіі, прозы, драматургіі, крытыкі, прыёмнай камісіі.

На жаль, сённяшні 70-гадовы юбіляр — гэта пераходнае і не ва ўсім дасканалае грамадскае аб'яднанне. Ды ці ж мы не такі і час? Але...

Але Саюз пісьменнікаў і надалей працягвае захоўваць сваё добрае імя ды адстойваць тытул Лідэра Нацыянальнай Інтэлігенцыі.

І стараецца зберагчы сваю годнасць — годнасць кожнага прафесійнага пісьменніка (якая, як некалі выказаўся Эрнест Хэмінгуэй, падобная на цноту: страціўшы раз — не аднаўляецца).

І просіць у Бога талентаў ды спрыяльнага лёсу.

І, безумоўна ж, сардэчна віншуе сваіх сяброў — паэтаў, празаікаў, крытыкаў, літаратуразнаўцаў, а таксама і ўсіх чытачоў Беларусі — з юбілеем.

Беларуская літаратура — жыве!

## Сірот пранумаруюць

У Беларусі завяршаецца праца па стварэнні банка звестак пра маладых людзей ва ўзросце 18—23 гадоў — сірот і тых, хто застаўся без бацькоўскай апекі.

Як паведамляе Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Беларусі, цяпер у краіне пражывае каля 4,5 тысячы такіх маладых людзей, якія маюць патрэбу ў дадатковых сацыяльных гарантыях. У банк звестак будуць занесены звесткі аб найбольш запатрабаваных відах падтрымкі гэтай катэгорыі насельніцтва, у прыватнасці, аб забяспечанасці іх жыллём, працай, аказанні матэрыяльнай падтрымкі.

Адказнасць за фарміраванне банка звестак ускладзена на тэрытарыяльныя цэнтры сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва. На сённяшні дзень у краіне працуюць 152 такіх цэнтры. У тых раёнах, дзе такія структуры не створаны, гэтыя функцыі будуць выконваць раённыя і гарадскія ўпраўленні па працы і сацыяльнай абароне.

**Вольга АСІПЕНКА.**

## Дзіцячыя пляцоўкі за 20 мільёнаў рублёў

У рамках сумеснага дабрачыннага праекта Мінскага гарвыканкама і кампаніі "British American Tobacco" 30 жніўня ў адным з двароў Фрунзенскага раёна абсталявана дзіцячая пляцоўка.

Ініцыятарам праекта "Наш двор" выступіла "British American Tobacco", якая прапанавала гарвыканкаму правесці ў 2003 годзе гарадскі конкурс на лепшы двор. Для пераможцаў конкурсу — Фрунзенскага, Кастрычніцкага і Партызанскага раёнаў на сродкі кампаніі былі закуплены тры дзіцячыя пляцоўкі агульным коштам больш за 20,5 млн. рублёў.

На яе адкрыцці было адзначана, што дзіцячая пляцоўка ў двары па праспекце Пушкіна папоўнілася дзвюма пластыкавымі горкамі для дзяцей малодшага і сярэдняга ўзросту расійскай фірмы "Дзеці айчыны". Гэтыя гульнявыя комплексы выраблены з экалагічна чыстых матэрыялаў, маюць прывабны знешні выгляд і адпавядаюць усім патрабаванням бяспекі, што прад'яўляюцца да дзіцячых пляцовак у Беларусі.

**Лавінія АРЭШКА.**

## Такі крэм на твар не пакладзеш

Парфюмерна-касметычная прадукцыя, што рэалізуецца індывідуальнымі прадпрымальнікамі Брэсцкай вобласці, на 30 працэнтаў не адпавядае санітарным нормам. Аб гэтым БелаПАН паведаміла загадчык санітарна-гігіенічнага аддзела абласнога цэнтра эпідэміялогіі **Таццяна КОРЧЫК.**

Паводле яе слоў, падчас рэйду была праверана праца больш чым 200 прадпрымальнікаў, якія займаюцца рэалізацыяй касметыкі, і ва ўсіх раёнах выяўлены парушэнні.

Паводле слоў Т.Корчык, усе гэтыя парушэнні характэрныя не толькі для тых прадстаўнікоў малога бізнесу, якія рэалізуюць прадукцыю непасрэдна на рынках, але і для тых, хто прадае яе ў палатках, павільёнах і кіёсках, размешчаных у гарадах і іншых населеных пунктах вобласці.

Па выніках рэйду да парушальнікаў правіл гандлю касметыкай прыняты меры адміністрацыйнага ўздзеяння. Так, у дачыненні да 31 індывідуальнага прадпрымальніка прынята рашэнне аб прыпыненні рэалізацыі касметычнай прадукцыі, складзены 52 пратаколы аб адміністрацыйным правапарушэнні. Прыменены штрафныя санкцыі на суму каля 4,5 мільёна рублёў. У мясцовыя органы ўлады перададзены матэрыялы на пазбаўленне трох прадпрымальнікаў ліцэнзій на права гандлю парфюмерна-касметычнымі вырабамі.

**Ларыса ШЫГАНАВА.**

ПО-Е-ХА-ЛИ!

# «На французской стороне, на чужой планете...»

## О том, что должен знать молодой белорус, решивший получить диплом западного вуза

*География стран, где сегодня могут получить высшее образование белорусы, обширна. В прошлом — те времена, когда учиться за границу могли поехать только "идеологически благонадежные" молодые граждане. Единственное, что требуется от абитуриентов сегодня, — знание английского языка и возможность оплатить учебу.*

— Главным критерием образования должно быть его качество и перспективы практического применения, — считает директор образовательного агентства "Делиус-терра" **Павел Жуковский**. С ним мы беседуем о том, какие возможности открывает международное образование и что должен знать молодой белорус, решивший получить диплом западного вуза.

— Когда мне приходится говорить о том, насколько важно международное образование, я всегда привожу в пример две реальные истории, — говорит Павел Жуковский. — В 1998 году в Южной Корее случился финансовый кризис, и правительство запретило корейцам выезжать за границу, чтобы получать там высшее образование. Но потом руководство страны поняло, что неразумно жить в изоляции, если хочешь, чтобы страна развивалась динамично. И границы были открыты.

Или такой пример. В Китае молодые люди, имеющие университетский диплом США, получают вдвое больше своих коллег, закончивших вуз на родине.

**— Насколько востребовано международное образование у молодых белорусов?**

— В нашей стране количество желающих получить образование за границей с каждым годом возрастает в среднем на 14%. Надо отметить, что рост интереса к высшему образованию наблюдается и в большинстве стран мира. По данным отчета по вопросам образования ЮНЕСКО, в мире сейчас насчитывается более 11 тысяч высших учебных заведений, в которых обучается около 80 миллионов студентов. Более четверти из них — студенты-иностранцы.

Каждый день только я лично отвечаю на 6—7 звонков людей, которые интересуются возможностью получить образование за границей. Чаще стали обращаться в наше агентство представители областных центров, других городов Беларуси. Мы посчитали, что для иногородних студентов образование за рубежом обходится не дороже, чем образование в Минске.

Как правило, звонят люди, которые уже имеют высшее образование и хотят получить вторую специальность. Чаще белорусы спрашивают об образовании на английском языке. И когда речь заходит об английском языке, то все почему-то думают только об университетах Англии. Но учиться в этой стране, сразу скажу, дорого. Обучение за год обходится приблизительно в 25 тысяч долларов. Мы являемся сторонниками обучения на английском языке, но в тех странах и университетах, где это доступно. Например, британское образование можно получить в Венгрии, Польше и других странах. И это уже будет стоить 4—8 тысяч долларов в зависимости от вуза и страны.

**— На каком уровне надо знать английский язык, чтобы учиться за границей?**

— Выпускникам нашей средней школы с углубленным изучением иностранного языка, как правило, хватает знаний, чтобы сдать англо-австралийский экзамен на 5—5,5 балла. Для поступления в британский вуз необходимо получить больше — 6—7,5 балла, в зависимости от специальности. Но чтобы учиться в британских вузах, аккредитованных в Венгрии, Польше и других странах, полученных 5 баллов достаточно.

**— Павел, а какие специальности пользуются особым спросом у белорусских абитуриентов?**

— Самое большое международное интернациональное измерение имеют экономические специальности. Потому что они достаточно универсальны.

**— Насколько знания, полученные за рубежом, применимы в Беларуси?**

— Очень многое зависит от специализации. Например, несложно адаптироваться в нашей действительности инженеру-строителю. Но когда я провожу собеседование с молодыми людьми, решившими учиться на Западе, я всегда подчеркиваю, что они должны быть готовы к тому, что, возможно, не смогут трудоустроиться в Беларуси. Более того, они никогда не будут привязаны к той стране, где учились или где хотят жить. Студентам-иностранцам, как правило, приходится ехать туда, где им предлагают работу, достойную их. Но в любом случае международное образование — это вложение капитала в себя, и это другие шансы реализовать себя. Например, граждане Беларуси достаточно легко трудоустраиваются на просторах бывшего СНГ. И для многих международных компаний, которые имеют свои представительства в Москве, Киеве, Минске, Ташкенте и т.д., очень выгодно нанять нашего гражданина, чтобы он работал в их офисе.

**— Павел, а Вы могли бы назвать преимущества западной системы образования от нашей?**

— Я вижу преимущества западного образования в том, что люди заканчивают школу в 18—19 лет. Они уже сделали выбор, кем быть, и последние два года изучают углубленно два-три предмета. Особенно одаренные — пять-шесть. Например, выпускник английской школы знает математику на уровне второкурсника нашего экономического вуза.

Но мне приятно отметить, что за последние годы Беларусь приблизилась к европейским стандартам образования. Тем стандартам, которые рекомендованы Европейским Союзом для внедрения во всех странах. У нас уже 12-летнее среднее образование, и сегодняшние шести-, семиклассники через 5 лет получат аттестат, который принят в странах Евросоюза. А значит, им будет проще получить образование за рубежом.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

**Международное образование для белорусов на английском языке**

| Ваш статус сегодня | Возможности поступления на ОКТЯБРЬ 2004 г. | Длительность обучения | Стоимость обучения в год |
|---|---|---|---|
| выпускник вуза | Польша: МАГИСТРАТУРА БРИТАНСКОГО УНИВЕРСИТЕТА Программа: International Business&Management | 1 год | $US 4.600—4.900 |
| выпускник вуза | ПОЛЬША: МАГИСТРАТУРА БРИТ.+ИСП.+ФРАНЦ.+ПОЛ. УНИВЕРСИТЕТОВ International Master in Management | 1 год | $ US 5400—5800 |
| выпускник ШКОЛЫ | ПОЛЬША: Программа: Finance | 3 года | $US 3700 |
| выпускник ШКОЛЫ | ПОЛЬША: Программа: Management and Marketing | 4 года | $US 3200 |

